


Бася Дзямянюк, вучаніца восьмага класа школы ў Пасынках, не толькі добрая вучаніца, але і актыўная ў кожнай школьнай справе. Бася таксама піша вершы па-беларуску, абяцала прысланць некалькі вершаў у „Зорку". Чакаю. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 42 (1210) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 19.X.1980 г.

О. Волазава

# Хто выдумаў мыльныя пухіры?

У адной краіне калісьці зусім не ведалі, што такое мыла. І вось аднойчы мыла вынайшлі — пахучае, свежае, ягаднае, мядовае, румянковае, васільковае. Такое цудоўнае было мыла, што над ім лёталі здзіўленыя пчолы, а людзі баяліся іх, і таму ніхто не чапаў мыла і не спяшаўся мыцца свежым, пахучым, ягадным, румянковым, васільковым. Але строгі кароль выдаў вельмі строгі загад: усім на свеце кожны дзень мыцца вадой з мылам — пахучым, свежым, васільковым, румянковым, лугавым, травяным, сенакосным, яблычным і, вядома, мядовым.

Адзін упарты шавец па імені Пумпатус ні за што не хацеў мыцца, а галоўнае, не хацеў мыць шыю. Ні пахучым, ні ружовым, ні мядовым, ні вінаградным. Ніякім!

— Пасадзіць нягодніка ў турму! — загадаў суровы кароль.

І два вялізныя салдаты, памытыя самым пахучым мылам, схапілі Пумпатуса і павялі ў турму. А там быў пакой пытак. А ў ім вялікая ванна, поўная мыльнай пены, і шмат махнатых ручнікоў, прыгожых, як летнія лугі.

— Згаджаешся? — спыталі два вялізныя салдаты.

— Ні ў якім выпадку! — рашуча адказаў Пумпатус, з гонарам узняўшы галаву.

Тады яму дазволілі выкурыць апошнюю люльку перад вечнай турмой. Ён узяў сваю люльку, зацягнуўся. І раптам убачыў, што над ёй паявіўся празрысты лёгкі шарык. У ім скакалі маленькія каляровыя вясёлкі. За шарам паляцеў другі, трэці, чацверты.

Пумпатус глядзеў на іх, як зачараваны. Шары ляцелі праз акно на вуліцу, і прахожыя не маглі наглядзецца на празрыстыя, вясёлкавыя, блакітныя, зялёныя, залацістыя, васільковыя...

Вучоны прафесар, якога тут жа запрасілі ў турму, агледзеў люльку Пумпатуса.

— У люльку трапіла мыльная пена. Вось у чым справа, — вытлумачыў прафесар людзям на вуліцы.

З таго часу ўсе пачалі напаўняць свае люлькі пенай і пачалі пускаць мыльныя пухіры: мядовыя, румянковыя, ягадныя, апельсінавыя, бананавыя, лугавыя, травяныя, сенакосныя, колеру марской вады. Нават неба зрабілася каляровым ад мыльных бурбалак. Дамы ўпрыгожваліся ў каралі з мыльных бурбалак. На рынку тры гарбузы каштавалі семнаццаць мыльных пухіроў, а мяшок мукі



— дваццаць чатыры мыльныя пухіры.

А ці ведаеце вы, аб чым думаў чалавек, які зрабіў такое цудоўнае адкрыццё? Ці ведаеце вы, аб чым думаў, хітра ўсміхаючыся Пумпатус, калі ехаў з турмы ў залатой карэце і ўсе махалі яму рукамі, а дзяўчаты кідалі кветкі?.. Правільна, здагадаліся. „А шыю я ўсё-такі не памыў, — думаў ён. — А вось і не памыў!"

Што ж, няхай, хто выдумаў, як пускаць мыльныя бурбалкі, таму можна даравацъ любыя недахопы, нават самыя стр-рррашныя.

### ЗМЯЯ

*Як зараве*
*Раптоўна Янка:*
*— Змяя! —*
*І сігануў наўцёк.*
*Амаль не ўпала*
*Маці з ганка,*
*Ляціць,*
*А ногі, як знарок,*
*Самлелі,*
*Не ідуць наперад.*
*Народ натоўпам,*
*Спрэчкі, гоман...*
*І тут рашае*
*Бабка Вера*
*Паправіць*
*Гэту справу ў момант:*
*Мінут пятнаццаць*
*Пашаптала*
*І, папляваўшы на траву,*
*Нібыта ўрач,*
*Забінтавала*
*Старанна Янкаву нагу.*
*І на змяю ў атаку*
*Натоўп крочыць,*
*Сціскаючы дубіны.*
*Ды раптам ўсе*
*Як зарагочуць...*
*Замест змяі*
*Ляжыць лазіна.*

**Мікола Ганчароў**



### А Ў БАРЫ, БАРЫ САСОНКІ



Адспявала лета песні,
Усе сабрала каласы.
Пад сасонкамі, на ўзлессі,
Расцвітаюць верасы.

Цвет, як даль, блакітна-ясны,
Нашай долі светлы дзень:
І наступны, і сучасны,
Што прыйшоў і што ідзе.

І шуміць сасоннік гонкі,
Ў шуме льюцца галасы:
А ў бары, бары сасонкі
І пад імі — верасы.

**Язэп Пушча**

**Алена Мімрык**

# Стары баравік

Спачатку мы хадзілі з дзядулем па лісічкі. Знойдзеш адну, трошкі адгорнеш мох, а тут іх поўна. Толькі рэж.

Сёння прыехала мама. Дзядуля і кажа:

— Якраз на грыбкі завітала. Цяпер, пасля гэткіх дажджоў, іх поўна. Я во і кош сплёў. Можа, і ты пойдзеш з намі ў лес?

— Няхай дома пабудзе, — адказала за маму бабуля. — Яшчэ паспее.

— Як сабе хоча. А мы з Кацярынкаю пойдзем.

Дзядуля даў мне маленькі ножык, мы ўзялі кашы і выправіліся ў лес.

Ёсць у дзядулі свая мясціна каля выгарэлага лесу, дзе ён заўсёды збірае баравікі. Спыніліся мы там. Ён і кажа:

— Шукай.

Я нагнулася і пачала ўзірацца. У шызаватым моху ўбачыла невялікага баравічка з цёмна-вішнёвай шапкай на тоўстай ножцы. Асцярожна, каб не пашкодзіць грыбніцу, як вучыў дзядуля, падрэзала белы карэньчык і паклала грыб у кош. Паглядзела: збоку яшчэ адзін, далей — яшчэ адзін, маленькі. Я пашкадавала яго зразаць.

— Няхай расце да заўтра, — сказала я. — Заўтра мы зноў сюды прыдзем.

Дзядуля, высокі, крыху згорблены, у акулярах, ходзіць паціху і ўвесь час назірае за мною: баіцца, каб не адышла далёка ды не заблудзілася ў лесе.

— Кацярына! — раптам кліча дзядуля. — Пакажы, як там у цябе, ці назбірала трохі?

Я падышла. Дзядуля паглядзеў і пахваліў:

— Вочкі маладзенькія, добра бачаць, не тое што мае, старыя...

Цяпер я хадзіла побач з дзядулем. Каля высокай разлажыстай сасны ў зялёным моху мы ўбачылі вялікі грыб. Шапка яго была сіваватая, ножка высокая, тонкая. Яна не магла ўтрымаць цяжкую шапку, і грыб схіліўся набок.

— Яго не варта браць, бабуля ўсё роўна выкіне, — сказаў дзядуля. — Няхай стаіць. Калі мала назбіраем, вернемся па яго.

Дзядуля павесіў на галінку сасны шматок паперы, каб запомніць месца. Так ён часта рабіў, калі траплялiся вялікія баравікі.

Ішлі мы з дзядулем па лесе, і ён расказваў мне пра розныя грыбы.

Самы лепшы грыб — баравік на тоўстай ножцы. Такія грыбы не любяць глухога лесу. Іх часцей за ўсё можна сустрэць каля сцяжынак на высечках у старым бярэзніку, ельніку, сасняку. А ў маладым лесе пад асінамі ці сярод травы нават не варта шукаць.

Хутка мы з дзядулем натрапілі на падасінавікі і многа нарэзалі іх. Мой малы кош быў амаль поўны, а ў дзядулі напалову.

— Хопіць на сёння, — сказаў дзядуля. — Нешта замарыўся я. Трэба, мусіць, забраць той стары грыб. Давай зойдзем. Можа, ён нечарвівы.

Грыб быў здаровы. Дзядуля не хацеў класці яго ў кошык, нёс у руцэ, каб усе бачылі.

— Вось гэта грыб дык грыб! Ты ж, Кацярына, пэўна не ведаеш, які век грыбоў? То скажу табе — дванаццаць дзён.

Вярталіся мы назад лясною дарогаю. Дзядуля нёс свой кош, я — свой. Мне хацелася пахваліцца маме, колькі я адна назбірала грыбоў.

У лесе было ціха. Толькі калінекалі пераклікаліся птушкі. Ды раптам я пачула нейкі гоман. Прыслухалася. Сапраўды, нешта гудзе. Не, не гудзе, а цёхкае. Што гэта? І тут паміж дрэў мільганула вада. Чым бліжэй мы падыходзілі да яе, тым мацней чулася цёхканне. Дзядуля ўсміхаецца, пазірае на мяне.

— Куды мы ідзём? — пытаюся.

— Зараз пабачыш. Захацелася мне паказаць табе гэтае месцайка.

Прайшлі яшчэ трошкі і выйшлі на луг.

Побач нешта зашамацела. Я спалохалася, прыхінулася да дзядулі. Бачу: з травы выскачыла вялікая прыгожая птушка. Пер'е на шыі чорнае з чырвоным адценнем. Крылы зеленавата-чырвоныя, хвост чорны з карычневымі палоскамі.



— Ой, качка з гальштукам! — закрычала я.

— Ніякая гэта не качка. Гэта індык, — засмяяўся дзядуля. — Глядзі, колькі іх тут.

Дзядуля паляпаў далонямі. Птушкі паўскаквалі на ногі, але не ўцякалі. Распусціўшы веерам хвасты, паціху цёхкалі: цёх-цёх-цёх!

— А вунь, бачыш, домікі, у якіх яны жывуць, — дзядуля паказаў на невялікія хаткі пры самым лесе. — Маленькіх, кволенькіх індыкоў прывезлі сюды вясною. У гэтым птушыным лагеры на прыволлі яны будуць жыць аж да зімы.

Былі тут і большыя індыкі, і меншыя, але ўсе вельмі прыгожыя. Пер'е пералівалася на сонейку, як вясёлка.

— Вось табе і качка з гальштукам! — зноў засмяяўся дзядуля.

Мы яшчэ трошкі пахадзілі па птушыным лагеры, паглядзелі іхнюю сталоўку і пайшлі дахаты. За намі, абганяючы адна адну, пабеглі птушкі. Так і праводзілі нас амаль да вёскі, потым вярнуліся.

Бабуля з мамай сядзелі на ганку. Убачылі ў дзядулевай руцэ такі вялізны грыб і здзівіліся:

— Ну і грыб! Гэта ж трэба, такі вырас!

Дзядуля разрэзаў яго напалам і сказаў:

— Паглядзіце. Хоць і стары, ды крамяны. Ніводнага чарвячка! Бяры, Пелагея, смаж. Будзе поўная патэльня. А меншыя замарынуем ці высушым.

**(Урывак з кнігі „Верабейка-галубейка“)**




## ЦЮЛЬПАНЫ

У асеннюю слоту, калі дождж імжыць без канца за акном, а чалавека пранізвае непрыемная вільгаць і холад, хочацца часам падумаць аб нечым сонечным, цёплым, прыемным. Таму прапануем пагаварыць аб кветках.

Мабыць, няшмат раслін адназначаюцца такой рознаколернасцю, як цюльпаны. Праўдападобна, гадоўцы ведаюць каля шасці тысяч гатункаў цюльпанаў!

У Еўропу цюльпаны былі прывезены з Турцыі ў XIV стагоддзі. Першыя цыбулькі невядомых да гэтага часу кветак паявіліся ў 1554 годзе ў Вене. Адтуль трапілі ў Францыю і Германію, але найбольш аматараў знайшлі яны ў Галандыі. „Цюльпанавая мода“ проста апанавала край. Каляровыя дываны з кветак, цэлыя палі, пакрытыя цюльпанамі ажывілі сумны краявід Галандыі.

Вырошчванне цюльпанаў у Галандыі працягвалася стагоддзямі. Кветкаводы спаборнічалі паміж сабою і стараліся атрымліваць усё новыя і новыя гатункі. За найцікавейшыя цыбулькі цюльпанаў плацілі несамавітыя грошы. У адным часе нават былі арганізаваны „цюльпанавыя латарэі“. Пакупнікі латарэйных білетаў мелі першынство ў куплі найбольш арыгінальных, яшчэ не сустраканых цюльпанаў.

Так, як Японію называюць краінай квітнеючай вішні, так Галандыя стала краінай цюльпанаў.

Сапраўдным царствам гэтых цудоўных кветак у Галандыі стаў парк Кеункепгоф, дзе кожную вясну адбываюцца фестывалі кветак і выстаўкі. Тады сюды прыязджае вельмі многа турыстаў з розных краін Еўропы, каб пабачыць мільёны цудоўных кветак, растучых як у павільёнах пад шклом, так і на клумбах у алейках парку. Клумбы там — гэта цудоўныя шматколерныя дываны з цюльпанаў.

## НАЙХАЛАДНЕЙШЫ

Найхаладнейшай часткай людскога цела з'яўляецца нос. Тэмпература на яго кончыку даходзіць да 22 градусаў С тады, калі нармальная тэмпература цела складае 36,6 градуса.

## КАКТУСЫ

Кактусы вельмі доўга могуць абыходзіцца без вады, як у вазоніках, так і растучыя дзіка ў Мексіцы. Але калі ёсць дастаткова вільгаці — убіраюць яе як губкі-мачалкі. У лонданскім батанічным садзе ўжо амаль пяцьдзесят гадоў расце кактус-велікан, які ледзь змяшчаецца ў зашклёнай цяпліцы і важыць больш дзвюх тон. Гэты кактус выпівае штодзень 250 літраў вады.



# Пазнаёмімся

* ✲ *

СССР, 694910, Сахалинская обл., г. Шахтёрск, ул. Интернациональная, д. 7, кв. 35. Вавиловой Людмиле. Дзяўчынка вучыцца ў дзесятым класе.

* ✲ *

СССР, 346506, Ростовская обл., г. Шахты-6, ул. Татаркина, д. 10, кв. 23. Клепко Ольге. Дзяўчынка вучыцца ў дзевятым класе.

* ✲ *

СССР, 300005, г. Тула, пос. Мясново, ул. Моторная, д. 54. Ирина Кочетова. Дзяўчынка хоча перапісвацца з хлопчыкам з чацвертага класа.

* ✲ *

БССР, 222660, г. Стаўбцы, Мінскай вобласці, вул. Сацыялістычная, 82. Лена Шыбко, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220050, г. Мінск-50, 1-ы Паўночны зав., 19, кв. 1. Анжэла Карповіч, 11 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220015, г. Мінск-15, вул. Харкаўская, 117, кв. 2. Іра Брыкун, 12 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220015, г. Мінск-15, вул. Харкаўская, 113, кв. 5. Анжэла Акулік, 10 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220015, г. Мінск-15, вул. Харкаўская, 115, кв. 8. Анжэла Майсяновіч, 9 гадоў.

* ✲ *

Андрэй Янюк, в. Аднога 22, пошта 16-053 Юшкаў Груд, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Ярэк Янюк, в. Аднога 22, 16-053 Юшкаў Груд, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Бася Наркевіч, 16-407 Віжайны, Сувальскае ваяводства.

* ✲ *

Цэцылія Паршэнка, Люцына Скепка, Галіна Вапа, Славэк Паршэнка, Мірка Скепка, Аліна Анікіюк, Ірына Анішчук, 17-220 Нараўка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Веся Паўлючук, Альхоўка, пошта 17-220 Нараўка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

Леанарда Богуш, вучаніца сёмага класа, Міклашэва, 17-220 Нараўка, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, 300005, г. Тула, пос. Мясново, 4 пр., д. 51, кв. 95. Валерий Чулков. Хлопчык вучыцца ў пятым класе.

* ✲ *

СССР, 373250, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, д. 2б, блок 3, кв. 33. Мамедовой Светлане. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.




## ХТО ХУТЧЭЙ

Для гульні патрэбны дзве дошчачкі або два кавалачкі картону для кожнага іграка. Гуляючыя становяцца ля сцяны, трымаючы ў руках па дзве дошчачкі ці картонікі. Ля другой сценкі на крэсле ляжыць падарунак. Гуляючыя павінны, падкладаючы сабе дошчачкі або картонікі пад ногі так, каб не ступіць на голую падлогу, дайсці да падарунка. Падарунак атрымлівае той, хто першы да яго дабярэцца.

# ВЯСЕЛЫ КУТОЧАК

* ✲ *

— Наталка, ты ведаеш поры года?

— Не. А што гэта?

— Паўтарай за мной: вясна, лета, восень, зіма...

— Вясна, лета, восень, снег...

* ✲ *

Шасцігадовы Іванка атрымаў ад таты 20 злотых, каб купіў што-небудзь маме на яе Дзень нараджэння.

— Дык што ты купіў, Іванка? — пытаецца потым тата.

— Тры порцыі марожанага.

— Дык яно ж табе растопіцца да заўтра!

— Таму я яго сёння з'еў.

* ✲ *

Тата даў Пецю па задніцы. У той жа дзень прыходзіць Пеця да дзеда і пытае:

— Дзедку, ці ты свайму сыну, а майму тату таксама даваў па задніцы?

— Пэўна, калі заслужыў.

— І табе тата даваў?

— Ну так.

— Цікава, хто гэта першы запачаткаваў?

* ✲ *

— Ах ты разбойнік? Якім правам ты без дазволу рыбу ловіш?

— Але ж, дзядзечка, я толькі вудачку мачу!

* ✲ *

Міліцыянер затрымаў веласіпедыста, які ўпоцемкі ехаў без асвятлення.

— У вас лямпа не свеціць!

— Я ведаю, хацеў направіць, але не выходзіць.

— Дык ідзіце пешкі.

— Я прабаваў, але і гэта не памагае.

* ✲ *

— Юрка, — пытаецца настаўніца, — ці ты сапраўды стараешся вучыцца?

— Стараюся.

— Дык чаму ж ты столькі памылак робіш?

— Бо я на памылках вучуся.

* ✲ *

— Ці гэта праўда, — пытаецца вучань у настаўніцы, — што падарожжы вучаць?

— Праўда, але табе трэба было б увесь свет аб'ехаць...

* ✲ *

— Паўлік, што вам сёння задалі па мове?

— Разбор сказа...

— Глядзі, каб не было так, як з радыёпрыёмнікам...

* ✲ *

З пісьма ў рэдакцыю: „Прышліце мне, калі ласка, кніжку пра каратэ. Я яе выстаўлю ў акне, і ўсе будуць ведаць, які я моцны".

## Адгадайка





**Якія з пададзеных унізе фігур трэба ўставіць у пустыя клеткі?**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**